крэсліў выснову: чыя мова — таго і дзяржава. Гэта выдатна разумеюць тыя імперыялістычныя і шавіністычныя сілы суседняй краіны, якія не жадаюць бачыць на палітычнай карце Еўропы суверэнную Рэспубліку Беларусь. У такіх умовах кожны сумленны працаўнік асветы нашай краіны абавязаны прызнаць з усёй адказнасцю, што дэрусіфікацыя народнай адукацыі шляхам стварэння сапраўднай нацыянальнай школы

Няўжо цяпер, з падачы вышэйшых кіраўнікоў нашай дзяржавы мы павернем назад? Гэтага нельга дапусціць ні ў якім разе. Добры прыклад тут падаюць дэпутаты сталічнага гарсавета, якія на сваёй апошняй сесіі не падтрымалі бацькоў, што настойліва дамагаліся пераводу шэрага школ горада ў катэгорыю рускамоўных.

Намеснік старшыні Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф.Скарыны Зміцер Санько нагадаў, што паводле загаду галоўнакамандуючага

самастойна ўсвядоміць ролю і значэнне роднага слова ў грамадстве.

Начальнік аддзела ўпраўлення народнай адукацыі сталічнага гарвыканкама Алена Фралова заўважыла, што настаўнікі школ Менска робяць шмат дзеля пашырэння беларускасці, а вось у ВНУ адпаведных зрухаў амаль няма. Ці возьмем, напрыклад, наша тэлебачанне. Яно зацята замоўчвае ўсё, што звязана са стварэннем нацыянальнай школы,

# нацыянальная школа — незалежная Беларусь!

**мова на шляху Адраджэння», арганізаванага Менскай гарадской Радай ТБМ імя Ф.Скарыны гарадскім упраўленнем народнай адукацыі Менска)**

на Беларусі — акт найвышэйшай гістарычнай справядлівасці ў дачыненні да былых, сённяшніх і будучых пакаленняў беларусаў. Будзе нацыянальная беларуская школа — будзе незалежная Беларусь!

У абмеркаванні першачарговых праблем, якія сярэднім і вышэйшым навучальным установам сталіцы ўсёй краіны неабходна аператыўна вырашыць дзеля пабудовы беларускай нацыянальнай школы, выступіла 14 чалавек.

Доктар філалагічных навук, прафесар Васіль Продчанка (Нацыянальны інстытут адукацыі) падкрэсліў, што родная мова, як нішто іншае, фарміруе чалавека як асобу і адметную грамадскую індывідуальнасць. На думку прафесара, інтэлектуальнае развіццё дзяцей непарыўна звязана з мовай. Але было б памылкай лічыць, што наша насельніцтва — рускамоўнае, бо мова, якой сёння карыстаецца большасць людзей, — не вялікая руская мова, а мова штучна-савецкая. Яна вельмі падобна да той, якую ў сваім вядомым фантастычным рамане «1984 год» вывеў англійскі пісьменнік Джордж Оруэл. У выніку не адно пакаленне савецкіх людзей амаль цалкам пазбаўлена маральнасці і высакароднасці. А марксісцкая дагматыка, на якой грунтавалася ўся савецкая педагогіка, дзесяцігоддзямі распрацоўвалася паводле ўзораў абсалютна чужой культурнай і гістарычнай глебы. Калі мы, як педагогі, па-сапраўднаму дбаем пра выкананне сваіх прафесійных абавязкаў, ускладзеных на нас народам, то варта найперш усяляк клапаціцца аб сучасным, жывым беларускамоўным асяроддзі, якое непасрэдна фарміруе глыбінную нацыянальную духоўнасць людзей. Работы тут яшчэ — непачаты край.

Старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі Аўген Лаўрэль паведаміў, што з першага верасня 1995 года Міністэрства адукацыі збіраецца ўвесці абавязковае вывучэнне рускай мовы ў першых класах (у тым ліку і беларускіх) школ. Такім чынам нам спрабуюць фактычна навязаць дзве родныя мовы, што рашуча перакрэслівае саму ідэю стварэння беларускай нацыянальнай школы. І гэта тады, калі цывілізацыя чалавецтва не ведае станоўчых прыкладаў падобных эксперыментаў. Найбольш аўтарытэтныя беларускія вучоныя лічаць, што вывучэнне рускай мовы ў беларускай школе мэтазгодна пачынаць толькі ў старэйшых класах. У іншым выпадку прымусовае двухмоўе ў школе непазбежна акажа разбуральнае ўздзеянне на яшчэ несфарміраваную, няўстойлівую дзіцячую псіхіку, стане садзейнічаць развіццю масавых неўрозаў, заікання і г.д. Нічога тут дзіўнага: дзеці акажуцца прымушанымі ўвесь час кантраляваць на ўроках уласнае вымаўленне, баючыся міжвольна дапусціць памылку. Але ж без такіх памылак не абысціся ніяк, бо пашыраная сёння беларуска-руская трасянка ва ўмовах адначасовага вывучэння з маленства згаданых моў абавязкова ўкараніцца да недапушчальнасці. Ад імя педагогаў краіны сп.Лаўрэль выказаў патрабаванне, каб кіраўніцтва Міністэрства адукацыі неадкладна адмовілася ад падобных — вельмі шкодных і небяспечных — намераў.

Дэпутат Менскага гарадскога савета Галіна Вашчанка падкрэсліла: нашы сённяшнія жыццёвыя рэаліі выразна сведчаць, што мова — таксама палітыка. Успомніце, сказала яна, як шмат ужо зроблена з часоў прыняцця Закона аб мовах на шляху да паслядоўнай беларусізацыі нашай школы.

нямецкім усходнім фронтам фельдмаршала фон Гіндэнбурга ад 16 студзеня 1916 года ў заходняй частцы Беларусі, занятай кайзераўскімі войскамі, беларуская мова ўпершыню за два апошнія стагоддзі зноў здабыла правы адкрытага ўжывання ў грамадскім жыцці. А цяперашнія першыя кіраўнікі нашай дзяржавы сваім стаўленнем да роднага слова фактычна ўраўноўваюць сябе з былой расійскай каланіяльнай адміністрацыяй. А залішне бадзёрая і аптымістычная статыстыка наконт поспехаў беларусізацыі школы хавае ў сабе шматлікія хібы. Таму з боку шырокай грамадскасці зараз патрабуецца пільны кантроль за ходам рэалізацыі моўнага заканадаўства ў галіне народнай адукацыі.

Рэдактар выдавецтва «Народная асвета» Яўген Гучок заклікаў прысутных падключыць міжнародныя арганізацыі да вырашэння ўсяго комплексу наяўных набалелых моўных праблем, засяродзіць увагу сусветнай супольнасці да таго жахлівага стану, у якім сёння знаходзіцца беларуская мова на сваёй роднай Бацькаўшчыне.

Старшыня дэпутацкай камісіі па адукацыі і выхаванні Менскага гарвыканкама Вольга Кузьміч пагадзілася з тым, што ў нас з'явіліся пэўныя палітычныя сілы, якія адкрыта супраціўляюцца нацыянальнаму Адраджэнню Беларусі. Але ўпраўленнем народнай адукацыі робіцца ўсё магчымае, каб у сферы школьніцтва сталіцы трымаць сітуацыю пад кантролем. Даводзіцца канстатаваць, працягвала яна, што нават у асяроддзі настаўніцтва старая ідэалогія яшчэ не выветрылася. Напрыклад, настаўнікі часта не разумеюць, чаму і навошта мы абавязваем выкладаць матэматыку, чарчэнне, фізкультуру і г.д. па-беларуску? У горадзе ідзе барацьба за кожную беларускую школу, за кожны беларускі клас. Нам вельмі дапамагаюць вынікі кантрольных работ па якасці ведаў, якія адназначна сведчаць, што веды значна вышэй там, дзе прадметы комплексна выкладаюцца толькі на дзяржаўнай мове. Тое ж самае можна сказаць і аб выпускніках гуманітарнага ліцэя (дзе навучанне — толькі беларускае), якія зараз з поспехам займаюцца ў вядомых ВНУ замежных краін.

Выкладчык Беларускага педагагічнага універсітэта, старшыня гарадскога бацькоўскага камітэта дзяцей беларускамоўных класаў і школ Алесь Шамак расказаў аб акалічнасцях вядомага выступлення Аляксандра Лукашэнкі ў педагагічным універсітэце. Прамоўца адзначыў, што яго камітэт не мае нічога супраць вялікай рускай мовы, сябры камітэта толькі перакананы, што ў нашых варунках пачынаць вывучэнне яе мэтазгодна не раней, як з пятага класа, каб у нашай дзятвы ўжо паспеў стварыцца і замацавацца уласны нацыянальны менталітэт.

Доктар гістарычных навук Леанід Лыч падкрэсліў, што наш народ, на жаль, мала падрыхтаваны да беларускага аднамоўя. Па-ранейшаму тут самую негатыўную ролю адыгрываюць сродкі масавай інфармацыі. На думку навукоўца, двухмоўе ў любой краіне — з'ява каланіяльная, якая любой суверэннай дзяржаве зусім не да твару. Таму не варта верыць бясконцым байкам аб квітнеючых краінах, дзе існуюць дзве ці нават тры дзяржаўныя мовы. На самой справе ва ўсіх кутках свету скрозь атрымоўваецца па формуле: чыя мова — таго і дзяржава. У такіх умовах не выклікае сумненняў, што з нашым народам неабходна праводзіць мэтанакіраваную растлумачальную работу, каб кожны мог

ад часу да часу паказваючы адны беларускія народныя танцы, прыпеўкі і г.д. у выкананні школьнікаў. Нібыта толькі апошняе сведчыць аб якасна новым напаўненні навучальнага працэсу ў беларускіх школах. А наша прэса проста нярэдка перашкаджае нам набіраць новых вучняў у беларускамоўныя класы і беларускія школы.

Старшыня Менскага гарадскога клуба «Спадчына» Анатоль Белы крытычна выказаўся на адрас рэспубліканскага кіраўніцтва ТБМ імя Ф.Скарыны, але вельмі неканкрэтна. Ён прапанаваў таксама стварыць новую грамадскую арганізацыю — камітэт выратавання роднай мовы. Але згаданая прапанова падтрымкі ў зале не атрымала.

Дырэктар 86-й сярэдняй школы Менска Мікола Шэндэраў спыніўся на тым, што апошнім часам павялічылася колькасць выпадкаў, калі бацькі часцей і часцей самі прыводзяць сваіх дзяцей у беларускамоўныя класы і беларускія школы. Праўда, матэрыяльная база такіх навучальных устаноў па-ранейшаму застаецца вельмі слабай, шмат дзе настаўнікі працуюць проста на пальцах ці рыхтуюць да ўрокаў самаробныя табліцы, карткі і г.д.

Намеснік старшыні гарадской Рады ТБМ, загадчыца аднаго з дзіцячых садкоў горада Надзея Сармант спынілася на вострым недахопе метадычных дапаможнікаў і распрацовак для дашкольных беларускамоўных дзіцячых устаноў. Акрамя таго, на жаль, здараецца і так, што гадаванцы нацыянальных дзіцячых садкоў па розных прычынах трапляюць у ... рускія школы. Апошняе ўвогуле недапушчальна, бо ўсё набытае ў дашкольным узросце амаль цалкам губляецца.

Прафесар Беларускага педагагічнага універсітэта Ефрасіння Андрэева, дарэчы, руская па нацыянальнасці, засяродзіла ўвагу залы на тым, што яшчэ ў глыбокай старажытнасці антычныя педагогі аднагалосна прыйшлі да высновы: працэс навучання дзяцей да дванаццацігадовага ўзросту нельга паралельна ажыццяўляць на роднасных мовах. Таму сённяшнія спробы ўвесці абавязковае вывучэнне рускай мовы ва ўсіх першых класах беларускіх школ выглядаюць больш чым незразумелымі і недарэчнымі.

Загадчык кафедры беларусазнаўства Белдзяржуніверсітэта, пісьменнік Уладзімір Навумовіч запэўніў прысутных, што ў студэнцкім універсітэцкім асяроддзі беларусізацыя зусім не сустракае перашкод, наадварот, яна прымаецца надзвычай прыхільна, з поўным разуменнем. Сп.Навумовіч таксама выказаў пажаданне, каб БДУ у самы бліжэйшы час стаў нацыянальнай ВНУ, а каб моладзь пайшла туды цугам — правесці набор першакурснікаў шляхам простага прыёму-запісу, як падобнае даўно практыкуецца ў перадавых краінах свету.

Намеснік начальніка Упраўлення народнай адукацыі Менскага гарвыканкама Рыгор Махнат падзякаваў усім, хто браў удзел у абмеркаванні бягучых пытанняў і стратэгічных праблем будаўніцтва беларускай нацыянальнай школы, падкрэсліўшы, што павароту назад з боку супрацоўнікаў упраўлення ў згаданай справе не будзе.

Вынікі «круглага стала» падсумаваў старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны Мікола Савіцкі. Удзельнікі пасяджэння аднагалосна прынялі адпаведны выніковы дакумент (будзе надрукаваны пазней).

**Наш карэспандэнт.**

*УРАЖАННІ*

*Мікола КАПЫЛОВІЧ*

# Нявыдуманыя гісторыі

## САМАЕДЫ

Нарадзіўся я ў вёсцы. Скончыў там школу, паступіў вучыцца ў педінстытут. На гістфак. Аж у Маскве апынуўся. Пасялілі мяне ў інтэрнаце. З першых жа дзён пачаў я вучыцца гаварыць па-маскоўску. Вядома, найхутчэй хацелася масквічом стаць. Каб не смяяліся з маёй вясковай мовы — беларускай, значыцца. Дзень слухалі рускія хлопцы, як я родную мову ламаю, другі слухалі, а потым, не вытрымаўшы, сказалі: «Гавары, Пеця, па-свойму, па-беларуску. У цябе гэта лепш выходзіць. Не калеч ты рускай, і сябе таксама». Пачырванеў я ад сораму, ды зноў стаў па-свойму размаўляць. Прыслухаліся хлопцы і падсумавалі: «Мы ўсё разумеем, што ты гаворыш. Цудоўная ў вас, беларусаў, мова. Мілагучная. Нібы не гаворыш, а спяваеш. І татаршчыны, як у нашай, няма. А старaславянізмаў, наадварот, шмат».

Падахвочаны хлопцамі, я ўсе пяць гадоў, што вучыўся ў Маскве, гутарыў з імі толькі па-беларуску. А яны ўсё дзівіліся, якая вобразная наша мова. Нават да беларускай літаратуры ўзнік у іх інтарэс. Прачыталі ў арыгінале Быкава, Мележа. А Хведар, хлопец з Калугі, нават узяўся пісаць дыпломную работу па Статутах Вялікага Княства Літоўскага, якую паспяхова абараніў.

І вось я скончыў інстытут. Трапіў на працу ў адну з сярэдніх школ Менска. У першы ж дзень свайго настаўніцтва стаў гаварыць па-беларуску. Але бачу: скоса глядзяць на мяне калегі, успрымаюць амаль як дурня. Кропку паставіў дырэктар школы: «Разговаривайте с учительским коллективом и ведите уроки только на русском языке. Иначе вас ни учителя, ни ученики никогда не поймут. Нельзя нарушать учебный процесс. И не связывайтесь с национализмом. Это вообще ни к чему хорошему не приведёт!» Нічога не зробіш, мусіў я гаварыць і выкладаць гісторыю па-расійску. Нават мне даручылі яшчэ выкладаць рускую мову і літаратуру. Відаць, з разлікам, каб хутчэй сваю забыў. Вось як справа выйшла: рускія людзі падтрымлівалі маю беларускасць, а свае, беларусы, па-янычарску яе выкаранялі з душы...

## РОДНЫЯ СЦЕНЫ

Два гады назад схапіў мяне параліч — адняліся ногі. Забралі мяне зяць з дачкою да сябе на Украіну. Ды зусім пагана там мне зрабілася. «Вязіце мяне дамоў, — кажу, — калі хочаце, каб я выжыла, бо памру я тут». А яны: «Ты што, мама, з глузду з'ехала? Як жа ты будзеш адна, хворая, там жыць? Хто цябе напоіць, накорміць? Хто абагрэе? Хоць вясны дачакайся». «Не адна я там, — кажу ім, — буду жыць я з роднымі сценамі».

Адвезлі ўрэшце мяне на Радзіму. Унеслі ў хату на руках, пасадзілі на лаву і кажуць: «Сядзі, мама, а мы па твае пажыткі з'ездзім». Сяджу ў сваёй хаце. Весела зрабілася, хораша! «Чаму ты лічыш сябе хворай? — пытаюся сама ў сябе. — Хто гаворыць, што ў цябе ногі адняліся? Можа, гэта табе прыснілася?» Рванулася я раптам з лавы да печы, і дзіва: на ногі стала. Стаю! Баюся паварушыцца, але стаю. Дай, думаю, адзін крок зраблю. Вядома, па роднай хаце хочацца прайсці гаспадыняй. Атрымалася! Назаўтра дачка на легкавіку вярнулася, дзверы адчыніла, а я ля парога стаю. «Мама, няўжо ты на нагах стаіш? Хто табе дапамог?» «А дапамаглі, — кажу, — пан Бог ды мае родныя сцены».

З таго часу пачала я на вачах папраўляцца. Цяпер, дзякаваць Богу, і вакол сваёй хаты хаджу. Радзіма, відаць, мяне вылечыла, родны куток.

ЗГАДКІ

# Дзе ў Менску пахаваны Мянеск?

Народная памяць не толькі трывала і паэтычна ўтрымала ў сабе жыццё і дзейнасць Мянеска — заснавальніка Менска, але і зберагла месца яго пахавання. Мянеск так шырока ўвайшоў у паўсядзённы побыт менян, што даўней яны не маглі абысціся без такога, напрыклад, выслоўя: «Не пайду я да Менска ад шляху Віленска, а калі ж пайду па шляху Віленскім, то спаткаюся з Мянескам».

Беларускія вучоныя, падарожнікі, этнографы, фалькларысты, краязнаўцы, пісьменнікі і паэты мінулага адчувалі вялікую любоў нашчадкаў да згаданага продка і таму занатавалі гэта ў сваіх запісах і творах. Адным з іх стаў наш суайчыннік Пётр Міхайлавіч Шпілеўскі, які ў сярэдзіне XIX стагоддзя выдаў дзівосную кнігу «Путешествие по Полесью и Белорусскому краю». Вось што ён адзначаў: «У рэшце рэшт, далей ад Траецкай гары вы бачыце шырокую Свіслач і ... некаторыя часткі Татарскага канца, праваслаўныя могілкі Пярэспу з іх каменнай царквой з залачоным купалам». А затым Шпілеўскі гаворыць, што паблізу могілак, магчыма, спарахнелі і косці заснавальніка Менска — Мянеска.

А зараз паспрабуем расшыфраваць згаданы фрагмент запісаў Шпілеўскага, спраектаваўшы іх на сучаснае месцазнаходжанне пералічаных аўтарам гістарычных аб'ектаў беларускай сталіцы, каб больш-менш дакладна вызначыць, дзе ж пахаваны гэты славуты жыхар Менска.

Першы такі аб'ект — Траецкая гара ў раёне сучаснага Траецкага прадмесця (лукавіна на левым беразе Свіслачы). Ёсць меркаванне, што назва ўзнікла ў XV стагоддзі ад абарончага рэдута Святой Троіцы ля Барысаўскай заставы (у часы Шпілеўскага — Аляксандраўская вуліца, з 1936 года — вуліца Горкага, зараз — вуліца Максіма Багдановіча).

Другі аб'ект — Татарскі канец ці прадмесце. Ён займае тэрыторыю сучаснага праспекта Машэрава. Назва ўзнікла ў XVI стагоддзі, калі тут былі паселены татары. Колішнія вуліцы — Вялікая Татарская (цяпер — Дзімітрава), Малая Татарская (зараз — Калгасная), шмат завулкаў, так званыя Татарскія агароды, мячэць, на месцы якой сёння гатэль «Юбілейная».

Наступны аб'ект — праваслаўныя могілкі Пярэспа. Гэта назва былой прыгараднай слабады, якая знаходзілася за Старажоўскай заставай паміж старадаўнімі паштовымі шляхамі на Вільню і Даўгінава (Старавіленскі тракт і вуліца Чарвякова, былая частка Даўгінаўскага тракту). Напрыканцы XIX стагоддзя Пярэспа злілася са Старажоўкай і ўвайшла ў склад горада.

Як кажуць паданні, ля Віленскага тракту і рачулкі Пярэспы, якая дала назву прадмесцю, пасяліўся асілак ці вядзьмар Мянеск, што пабудаваў на Свіслачы вадзяны млын і гэтым заснаваў горад Менск.

Могілкі на Пярэспе былі адкрыты ў 1820 годзе. Як мне здаецца, яны якраз узніклі на кургане, дзе і быў пахаваны першы жыхар Менска — Мянеск. Менавіта гэта і занатаваў у свой час Пётр Шпілеўскі.

Дрэнна, што камуністычныя ўлады адбілі гістарычную памяць у жыхароў сталіцы, адвучылі іх шанаваць сваю сівую мінуўшчыну. Таму няма ніякага знака на месцы магілы першага жыхара сучаснай беларускай сталіцы.

На згаданых могілках стаіць сёння каменная царква Марыі Магдалены (вуліца Кісялёва, 78). Пра гэты храм пісаў, дарэчы, і «вясковы лірнік» Уладзіслаў Сыракомля ў сваім вядомым творы «Мінск» (пераклад Хрысціны Лялько): «Да грэка-расійскага веравызнання належыць ... царква ў прадмесці Пярэспа пры Віленскім тракце». Вакол царквы былі могілкі, ад якіх зараз захавалася каменная брама і частка агароджы, пабудаваныя ў канцы XIX стагоддзя.

Як бачым, сёння вядома, дзе жыў Мянеск, дзе ён пабудаваў свой славуты млын на сем колаў, дзе ён пахаваны. Няма толькі аднаго — ушанавання памяці заснавальніка Менска — Мянеска.

Таму я лічу неабходным аднавіць спрадвечную назву нашай сталіцы — Менск. Варта ў гонар Мянеска таксама надаць адпаведныя назвы лепшым і прыгажэйшым вуліцам, плошчам, скверам, пакам у гарадах і вёсках Беларусі, а ў Менску паставіць помнік Мянеску і аднавіць яго магілу.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Беларускага Геаграфічнага таварыства.**
г.Баранавічы.

У СУСЕДЗЯЎ



Гайнаўка — невялікі гарадок на ўсходзе Польшчы. Тут і ў вакольных гарадах, мястэчках і вёсках Падляшша адвеку жывуць беларусы, якія захоўваюць сваю мову, звычаі і традыцыі.

**На здымку:** У Гайнаўцы будуецца Беларускі музей.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, Белінфарм.**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ
## ў пытаннях і адказах

## Якія пласты беларускага народа найбольш пацярпелі ад бальшавіцкага тэрору?

У бальшавіцкай ідэалогіі рэпрэсіі супраць так званых класавых ворагаў займалі адно з галоўных месц. Гвалт для дыктатуры пралетарыяту быў проста неабходны. На думку У.Леніна, толькі з дапамогай «узброеных рабочых» магчыма ажыццяўляць сацыяльнае развіццё, дзеля чаго можна праліць і «мора крыві».

Рэпрэсіі пачаліся амаль з першых месяцаў існавання савецкай дзяржавы. У 1917—1921 гадах яны былі накіраваны галоўным чынам супраць «класавых ворагаў», якія вызначаліся паводле сацыяльнага стану ці партыйнай прыналежнасці. На Беларусі, дзе з прычыны нямецкай і польскай акупацыі савецкая ўлада ўсталёўвалася значна пазней, чым у Расеі, галоўны ўдар быў накіраваны супраць дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі, праваслаўных і каталіцкіх святароў, сяброў партыі беларускіх эсэраў.

Пастановай ВЦИК ад 11 красавіка 1919 года ва ўсіх губернскіх гарадах утвараліся «канцэнтрацыйныя лагеры» (гэтак яны называліся ў дакуменце) на 300 месц. У Менску такі лагер быў арганізаваны ў жніўні 1920 года.

Але сапраўды масавымі рэпрэсіі сталіся ў 30-х гадах. У 1930—1934 гадах у асноўным вынішчалася заможнае сялянства, так званыя кулакі, або тыя, хто аказваў супраціў утварэнню калгасаў. «Кулацкімі ідэолагамі» была названа значная частка беларускай навуковай і творчай інтэлігенцыі. Сотні тысяч сялян (паводле розных крыніц, ад 4 да 15% усяго беларускага сялянства) былі высланы ў папраўча-працоўныя лагеры, іх сем'і выселены за межы БССР.

Каб мець «падставу» для прыцягнення да крымінальнай адказнасці творчай і навуковай інтэлігенцыі Беларусі, органамі ГПУ—НКВД у 1930 годзе былі сфабрыкаваны справы контррэвалюцыйных арганізацый — «Саюза вызвалення Беларусі», Беларускага філіяла «Працоўнай сялянскай партыі», у 1933—1934 годзе — «Беларускай народнай грамады», «Беларускага нацыянальнага цэнтра» ды іншых. Было асуджана «на перавыхаванне» ў папраўча-працоўных лагерах і выслана ў Сібір і Казахстан больш за тысячу чалавек: навукоўцы, пісьменнікі, настаўнікі, журналісты, выкладчыкі ВНУ.

У 1933—1934 гадах былі рэпрэсаваныя практычна ўсе святары як каталіцкай, так і праваслаўнай канфесіі, а таксама царкоўныя актывісты, абвінавачаныя ў антысавецкай дзейнасці.

Шмат было асуджана і расстраляна гаспадарнікаў — кіраўнікоў і простых работнікаў розных галін народнай гаспадаркі. Калі інтэлігенцыю, святароў, сялян абвінавачвалі ў асноўным па палітычных матывах, то гаспадарнікі «выкрываліся як шкоднікі». Па справах шкодніцтва ў сістэме Дзяржплана, жывёлагадоўлі, Трактарацэнтра, запалкавай прамысловасці ды іншых былі асуджаны тысячы людзей.

У 1935—1936 гадах была ажыццёўлена «ачыстка» мяжы БССР ад «патэнцыяльных» ворагаў. У «аддаленыя мясцовасці СССР» было выслана больш за 20 тысяч чалавек.

Найбольшы размах рэпрэсіі набылі ў 1937—1938 гадах. Беларусь была «ачышчана» ад «контррэвалюцыйных элементаў і шпіёнаў». Толькі пры «выкрыцці» гэтак званага «Аб'яднанага антысавецкага падполля» было асуджана больш за 2,5 тысячы чалавек, значная частка з іх расстраляна.

У 1937—1938 гадах праводзіцца масавая акцыя «па выкрыцці» польскіх, нямецкіх і латышскіх «шпіёнаў». Было арыштавана блізу 23,5 тысячы чалавек, больш як 21 тысяча з іх расстраляна.

Рэпрэсіі 1938 года закранулі ўсе пласты грамадства, у тым ліку і арганізатараў гэтых рэпрэсій. Былі арыштаваны 99 сакратароў райкамаў КП(б)Б са 101, больш за 50 старшыняў райвыканкамаў, сакратары ЦК КП(б)Б.

Усе гэтыя працэсы паўтараліся пасля далучэння ў 1939 годзе Заходняй Беларусі. Прыпыненыя вайною, рэпрэсіі набылі там асаблівы размах у другой палове 40-х гадоў у сувязі з правядзеннем татальнай калектывізацыі і працягваліся аж да 1953 года.

Вынікі «праведзенай працы» на Беларусі жахлівыя: ліквідавана найбольш дзейнае, працавітае і прадпрымальнае сялянства, практычна знішчана нацыянальная інтэлігенцыя, закрытыя або зруйнаваныя цэрквы і касцёлы.

**Таццяна ПРОЦЬКА.**

## Як бальшавікі рэфармавалі беларускую мову?

Бальшавікі імкнуліся да стварэння імперыі, у якой усё было б аднолькавае, стандартнае. Ім належыць ідэя «зліцця моваў», г.зн. пераходу ўсіх народаў на расейскую мову. Першы этап «зліцця» — «збліжэнне» моваў, якое праводзілі прымусовымі, рэпрэсіўнымі метадамі.

Беларуская літаратурная мова адрадзілася ў XIX—пачатку XX стагоддзя. Складаліся граматыкі, слоўнікі, стваралася навуковая тэрміналогія. Але праца гэтая не была завершаная. Пры канцы 20-х гадоў бальшавіцкія ўлады абвінавацілі мовазнаўцаў у «шкодніцтве» і за некалькі хваляў рэпрэсій вынішчылі фізічна. Сярод знішчаных — Браніслаў Тарашкевіч, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Сцяпан Некрашэвіч, Мікола Байкоў ды іншыя.

«Варожымі» былі абвешчаныя і іхнія працы, у тым ліку пастановы Акадэмічнае канферэнцыі па рэформе правапісу 1926 года, праект рэформы правапісу 1930 года. У 1933 годзе беларускай мове спешна, без грамадскага абмеркавання, дэкрэтам навязалі бальшавіцкую рэформу. Мэтай яе было «ліквідаваць штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі», г.зн. спыніць развіццё беларускае мовы, пазбавіць яе непаўторнага аблічча. Скасавалі мяккі знак, які абазначаў памякчэнне (*песьня — песня, зьява — з'ява*), сталі пісаць не як чуецца, а на расейскі лад (*чэскі — чэшскі, ня быў — не быў*), у выніку чаго пачало страчвацца характэрнае для беларусаў вымаўленне. Запазычаныя словы мелі пісацца ўжо не на заходнееўрапейскі, а на расейскі ўзор (*дакляраваць — дэкляраваць, газэта — газета*). Нават скланяць і спрагаць словы беларускай літаратурнай мовы цяпер даводзілася аналагічна расейскім (*у садох, у палёх — у садах, у палях; не ганеце — не ганіце*). Уводзіліся зусім не ўласцівыя беларускай народнай мове дзеепрыметнікі, «асабліва калі яны азначаюць сацыяльны сэнс» (*эксплуатуючы* і *эксплуатуемы* клас). Востры пратэст супраць рэформы выказала інтэлігенцыя Заходняй Беларусі, з ціхім незадавальненнем успрынялі гвалт над мовай у самой сталінскай БССР.

Пад канец 30-х гадоў прыхільнікі «зліцця моваў» падрыхтавалі чарговую рэформу з напісаннямі тыпу *весна, братскі, бібліатека*. Яшчэ ў адным праекце (1951) прапаноўвалася пісаць *снегі, цеатр, басціон*. Толькі відавочная абсурднасць гэтых прапаноў уратавала нашую мову ад іх прыняцця.

Русіфікацыя перайначыла слоўнікі нашае мовы. Асаблівую нянавісць у бальшавікоў выклікалі спрадвечныя і самабытныя беларускія словы, якія яны называлі «нацдэмаўскімі», «кулацкімі». Партыйныя загады патрабавалі ўкладаць слоўнікі паводле «пралетарска-інтэрнацыянальнага» прынцыпу. Вяршыняй такіх «дасягненняў» стаў слоўнік пад рэдакцыяй Андрэя Александровіча (1937), дзе знаходзім словы *забыўчывы, неўстрашымы, брадзячы*. Рукапісы ж раней падрыхтаваных слоўнікаў пайшлі пад нож, і для нашчадкаў загінулі шматтомны «Слоўнік жывой беларускай мовы», двухтомныя расейска-беларускі і беларуска-расейскі слоўнікі, польска-беларускі і беларуска-польскі, эсперанцка-беларускі і беларускаэсперанцкі, латышска-беларускі, гістарычны, арфаграфічны...

На загад з партыйных кабінетаў зрусіфікавалі расейска-беларускі слоўнік 1953 года. Да беларускіх слоў дапісвалі расейскія сінонімы, ставячы іх часта нават на першае месца: рас. *батрак* — бел. *батрак, парабак; большак — гасцінец, бальшак; поезд — поезд, цягнік; минута — мінута, хвіліна*. Яшчэ далей пайшоў слоўнік 1980 года, які рэкамендаваў ужываць поруч са словамі *вавёрка, бусак* таксама і *белка, багор* і г.д. У 50-х гадах беларускія мовазнаўцы «прывезлі» з Масквы новы загад русіфікаваць граматыку беларускае мовы, што і здзейснілі ў двухтомнай акадэмічнай «Граматыцы».

Сёння расейскія моўныя элементы пранізваюць словаўтваральную сістэму нашае мовы. Пад чужаземным уплывам мы і цяпер страчваем нацыянальны сінтаксіс, фразеалогію, тэрміналогію (*дзялімае* і *прэдзел* у матэматыцы, *засядацель* у юрыспрудэнцыі). Гэта служыць для шавіністаў падставаю зневажаць беларускую мову, называць яе «испорченным русским языком», «грубым диалектом русского языка», заяўляць пра яе неразвітасць. Пара пазбыцца цяжкай бальшавіцкай спадчыны і аднавіць самабытнасць нашае мовы.

**Янка ВОЙНІЧ.**

Мікалай КРЫЎКО. Алена ШЧУКА

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАЧЫНА́ННЕ** (пачатая кім-н. справа) — *Лёгка вам падхопліваць гатовае, пісакам, — непрыязна адказаў Бародка. — Пачынанне! Гэта табе не ў газеце — сеў, напісаў — і любое пачынанне гатова! Прывыклі вы лёгка пачынанні фабрыкаваць!* (Шамякін), **ПАЧЫ́Н** *Ды трэба ж і ўвёсцы заводзіць нейкі іншы лад. Праявіць жа свой пачын ніколі не пашкодзіць* (Колас).

**ПА́ША** (участак зямлі, які выкарыстоўваецца для пасьбы жывёлы) *Аднекуль данеслася звонкае ляскание пугі пастуха, які збіраў па вёсцы на пашу кароў* (Хадкевіч). *Ля Пуцілкавіч пашы блізка не было, прыходзілася ганяць статак кіламетраў за сем праз панскі лес* (С.Александровіч), **ВЫ́ПАС** *Гусі то кормяцца, але як выглядаюць пасля гэтага палеткі і выпасы? Дзе прайшла гэтая птушка, там ужо нават не вырасце нічога* (Кулакоўскі). *Над вёскай навальніцы зноў грукочуць, На выпасах гуляюць перуны* (Верамейчык), **ВЫ́ГАН** (месца каля вёскі, дзе пасецца жывёла, птушкі) *Тамаш пераве́ў позірк на выган, там Лукаш пасвіў кароў, якія разбрыліся па пашы* (Гурскі). *Падумаць, яшчэ толькі ўчора пасвіла яна [Ганька] з усімі на выгане цялят, а сёння вунь куды ўжо занёс яе лёс!* (Васілевіч).

**Паша.** У даным выпадку мы сутыкаемся з тым, што беларуская мова мае большыя магчымасці дыферэнцыяцыі блізкіх паняццяў, бо адзіным англійскім эквівалентам усіх трох беларускіх сінонімаў з'яўляецца назоўнік ***pasture.***

**ПАЧЫРВА́НЕЦЬ** (стаць чырвоным пад уплывам якога-н. нечаканага або моцнага пачуцця) *Міця не здолеў схаваць разгубленасці, пачырванеў* (Навуменка), **ЗАЧЫРВАНЕ́ЦЦА** *Аленка зачырванелася ад сораму і вочы ўніз апусціла* (Колас), **ЗАРУМЯ́НІЦЦА** (злёгку пачырванець) *Расчырванеецца [жонка] ўся, зарумяніцца... А я ляжу ў пасцелі ды толькі любуюся ёю...* (Сачанка), **ЗАРУЖАВЕ́ЦЬ і ЗАРУЖАВЕ́ЦЦА** (злёгку пачырванець) *Заружавела звеннявая, Яго [шафёра] вачыма абвяла: — Дык гэта ж той танкіст... Я знаю... І ўсмешку усім перадала* (Пранузa). *Відаць адчувала гэта і Люба, бо апусціла свае вочы і злёгку, сарамліва заружавелася* (Пестрак). *Бачыў: дзяўчына, афармляючы тэлеграму, заружавелася, апусціла вочы. Хаваў позірк і ён [Сцяпан Галіноўскі], пакуль разлічваўся* (М.Ткачоў), **ЗАРДЗЕ́ЦЦА і ЗАРДЗЕ́ЦЬ** (моцна пачырванець) *Зіна, пабачыўшы іх [Сяргея і Васіля], адразу зардзелася і разгублена забегала па пакоі, то падаючы крэслы, то выціраючы стол* (Няхай). *Напэўна, Зарына зардзелася чырванню, але наўрад ці хто заўважыў гэта, бо ўсе былі падпітыя і паглядвалі на Кастуся* (Марціновіч). *Дзяўчына зардзела ад сораму,* **ЗАПУНСАВЕ́ЦЬ і ЗАПУНСАВЕ́ЦЦА** (моцна пачырванець) *Валя запунсавела ад радасці і, падняўшы руку над галавою, адказала па-піянерску: — Чэснае камсамольскае!* (Якімовіч). *Ірына апусціла вязанку і нечакана для сябе запунсавелася, як дзяўчынка* (Даніленка), **ЗАГАРЭ́ЦЦА** узмацняльнае *Алена загарэлася. Невялікі твар яе, усыпаны каля малых вачэй і на тонкім носе дробнымі крапінкамі вяснушак, густа пачырванеў* (Мележ), **УСПЫ́ХНУЦЬ** (адразу моцна пачырванець) *Пані рухава ўсхапілася з крэсла, жоўты твар яе ўспыхнуў* (Якімовіч).

**Пачырванець і інш.** Англійская мова таксама мае ў гэтым выпадку шэраг сінонімаў. У першую чаргу трэба назваць дзеясловы ***blush, flush, redden,*** ужыванне якіх можа розніцца ў залежнасці ад прычыны. Так, *blush* ужываецца часцей, калі чырванеюць ад сораму або разгубленасці. *Flush* мае падобны да папярэдняга сэнс, але можа таксама азначаць, што чалавек пачырванеў, бо ён хворы або яму горача. І, нарэшце, *redden* звычайна азначае, што прычынай пачырванення сталіся моцныя эмоцыі.

Але наша параўнанне будзе далёка няпоўным, калі мы не звернем увагу на наступнае: у англійскай мове, у параўнанні з нашай, часта адсутнічаюць дзеясловы для апісання пераходу з аднаго фізічнага стану ў іншы, такія, як напрыклад, бел. *памаладзець, пастарэць, захварэць* і г.д. У такіх выпадках у англійскай мове ўжываюцца спалучэнні дзеяслова-звязкі са значэннем «ставіцца» (іх у англійскай мове некалькі: ***become, get, grow, turn***) і адпаведнага прыметніка. У гэтым можна бачыць адну з праяў аналітычнага характару сучаснай англійскай мовы, дзе граматычнае і лексічнае значэнні часта знаходзяць раздзельнае (паасобнае) выяўленне.

У адпаведнасці з гэтай агульнай рысай, паданыя вышэй беларускія сінонімы можна таксама перадаць спалучэннямі тыпу *to become (get) turn red* — літаральна: «стаць чырвоным».

**ПАШАРПА́НЫ** размоўнае (пра прадметы, рэчы: які страціў першапачатковы выгляд ад доўгага ўжывання, нядбайнага абыходжання) *Побач стаяў пашарпаны.. чамадан, па рагах абабіты жоўтаю скураю* (Броўка). *Іван быў страшны: яшчэ больш ссутулены, бледны, у пашарпаным адзенні* (Брыль), **АБШАРПА́НЫ** разм. *Апрануўся Аленька якраз як на паляванне: на ім былі мышынага колеру штаны.., абшарпаная скураная тужурка, а на нагах гумовыя боты* (Навуменка), **ПАТРАПА́НЫ** разм. *Стэпа, як стаяла, так кінула ашматкі патрапанай аборкі і жмах вышмуляных ануч з пляча і панесла ў хату* (Гартны), **АБТРАПА́НЫ** разм. *[Чыжык] найбольш дзівіўся на схуднелыя твары новых сяброў, на абтрапанае, бруднае адзенне, на абутак, з-пад падэшваў якога відаць былі босыя ногі* (Лупсякоў), **ПАЦЁРТЫ** разм. *І калі ён нёс у левай руцэ чорны, крыху пацёрты чамадан, а правай абапіраўся на блішчасты кій, можна было падумаць на першы погляд, што гэта бадай што нейкі каміваяжор* (Пестрак). *У кішэні яго [Васілька] была пацёртая газета з аб'явай аб прыёме навучэнцаў у школы ФЗН* (Быкаў). — *Параўнайце*: **Ірваны, Паношаны, Стары.**

**Пашарпаны.** Адпаведны англ. сінанімічны рад можа быць прадстаўлены наступным чынам: ***shabby, battered, tatty, ratty,*** дзе *shabby* з'яўляецца найбольш ужывальным словам, а *ratty* — размоўным амерыканізмам.

---

*Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»*

## «Новую зямлю» называлі энцыклапедыяй сялянскага жыцця, але ўжо гэтым словам — сялянскага — прыніжалі вартасць паэмы.

*Ідэя стварэння энцыклапедыі аднаго твора Якуба Коласа зарадзілася даўно. Пра гэта гаварылі на Каласавінах, на навуковых канферэнцыях. І мы марылі пра такую энцыклапедыю, калі рыхтавалі матэрыялы да 70-годдзя першага выдання «Новай зямлі». Высока ацаніла паэму Вера Рыч, англійская паэтэса, журналіст і перакладчык. Яна паставіла «Новую зямлю» Якуба Коласа ўпоруч з творамі У.Шэкспіра і рымскіх эпікаў, яшчэ раз нагадала пра філасофскую вартасць «Новай зямлі» — вялікай драмы, нават трагедыі з усімі абавязковымі для такога эпічнага твора рысамі і праблемамі.*

*Нельга сказаць, што ў нас не цанілі «Новую зямлю». Яе называлі энцыклапедыяй сялянскага жыцця, але ўжо гэтым словам — сялянскага — стваралі адпаведны «імідж» твору, прыніжалі вартасць паэмы. Вывучэнне гэтага шэдэўра было фактычна абмежавана сялянскім побытам і некаторымі маральнымі ды этычнымі праблемамі.*

*«Новая зямля» ж уражвае глыбінёй, вядома, калі захочаш чытаць і разважаць, разважаць і чытаць... І кожны яе радок, пачынаючы ад першага — «Мой родны кут! Як ты мне мілы», — значны і важкі, як спелыя каласы на жытнёвым полі, і ў кожным — як гаворыцца ў нашай казцы — залатое зернетка, сярэбранае зернетка...*

*Таму менавіта Коласавы словы абрала Валянціна Выхота на аб'ект увагі і даследавання.*

## Коласавы зернеткі

***Словы, якія ў дадзеным кантэксце маюць канкрэтнае значэнне***

*У дзве нядзелькі па пакровах*
*Прывезлі Яську ў лапцях новых;*
*За ім два боты без абцасаў.*

**АБЦАС.** Ням. Absatz m. (У беларускай мове адбылася дыстантная метатэза.) Узыходзіць да abzetzen 'адстаўляць'. У сваю чаргу слова setzen — да sitzen з асноўным значэннем 'пасадзіць (каго-небудзь)'. Старажытнаславянскае (далей: ст.-слав.) saditi, гоцкае sitan. Германскі дзеяслоўны корань *set-, індаеўрапейскі (далей: і.-е.) *sed-. Старажытна роднасныя (з тым жа значэннем) грэчаскае hèzomai (ад *sèdjomai), лацінскае sedēre, ст.-слав. sěděti.

**Ад рэдакцыі:** Занатаваная І.І.Насовічам форма *абсац* ставіць пад сумненне ўтварэнне беларускага слова праз з'яву дыстантнай метатэзы (пераход Absatz > obsac > obcas).

*А буракі, гуркі, пятрушка —*
*Усяго, ўсяго, ну, проста — страх!*

**АГУРОК, ГУРОК.** Ням. Gurke f; сярэднегрэчаскае (с.-грэч.) ágūros узыходзіць да áōros 'няспелы' ў адрозненне ад кавуна, які ядуць толькі спелым. Перад 850 годам запазычана ў славянскую.
Gurke f «перс. → грэч. → слав.»*

*Дзед Юрка быў рыбак скарбовы,*
*Скарбовай чайкай карыстаўся,*
*А ўласны човен так валяўся,*
*Як бы ў адстаўцы той сенатар,*
*Хоць на чаўны дзед быў аматар.*

**АМАТАР.** Ням. Amateur m. праз французскую мову прыйшло з лац. amātor.
**Amateur** m «лац. → франц.»

*Хіба тут цесна? свету мала?*
*Няма работы для арала*
*Ці для сярпа або для коскі?*

**АРАЛА.** Ням. Arl f (паўднёва-бавар. і аўстр.). У дагістарычныя часы плугам быў тоўсты моцны *гук***. Яму адпавядалі назвы: як гоцкае hōha m, так і старажытнаверхненямецкае (ст.-в.-ням.) huohili 'aratiuncula' (генетычнароднаснае літоўскаму šakà, ст.-індыйскаму śākha 'сук', 'гук'; так і лац. arātrum, грэч. áratron 'плуг'; гоц. arjan, англа-сакс., ст.-сакс. ęrian, ст.-в.-ням. ęrran, лац. arāre, грэч. aróein 'араць'. і.-е. *ar( ) — 'араць'.

*А дзень гарыць, а дзень палае.*
*Усплывае хмарка і другая*
*Над сіне-дымным небасхілам*
*І ў задуменні смутна-мілым*
*З нябёс блакітных пазіраюць,*
*Як бы дарогу выбіраюць.*

**БЛАКІТНЫ.** Ням. blau, с.-в.-ням. bla, blawer, ст.-в.-ням. blāo, blāwēr. Герм. *blēwa ад *bhlēųo - роднаснае лац. flāvus 'залаціста-жоўты, чырвона-жоўты, бялявы'. Магчыма першапачатковае значэнне — не яркія, а светлыя фарбы.

*Дзень быў святы. Яшчэ ад рання*
*Бліны пякліся на сняданне.*

**БЛІНЕЦ. БЛІН.** Ням. Plinse f узыходзіць да і.-е. *mel-mahlen 'малоць'. Сорбскае blinc, mlinc трапіла як Plinze ў Прусію, як Plinze, Plinse ў Сілезію, Саксонію, Цюрынгію. Агульнаславянскае слова *mlinъ > блін у выніку дысіміляцыі *м* на *б*.

* Словы, узятыя ў вінкельныя дужкі, паказваюць шлях, якім слова трапіла ў нямецкую мову.
***Гук* — галіна дрэва (параўн. памянш. *гучок*).

---

*Дапытлівым*

# ТАЕМНАЕ ЎЗДЗЕЯННЕ ЛІТАРЫ «Ы»?

## Спроба псіхалінгвістычнага пранікнення

*— **Б.Уорф:** Разумовыя здольнасці асобы залежаць ад моўнай атмасферы, у якой яна развівалася...*

*— Большасць знакамітых дзеячаў навукі і культуры Беларусі паходзяць з вёскі, вучыліся і выхоўваліся ў атмасферы беларускае мовы...*

***Уладзімір Слабін** хоча спасцігнуць залежнасць развіцця асобы ад наяўнасці літары ы ў нашым алфавіце. Дарэчы, чаму толькі адной, бо маем жа яшчэ дз, дж? Запрашаем да размовы.*

Пішучы і гаворачы, мы перадаём свой эмацыйны стан. Ён змяняецца ў залежнасці ад таго, што мы пішам і кажам, але ў цэлым — да лепшага. Як у старажытным выслоўі Dixi et animam levavi — сказаў і аблегчыў душу.

Наш эмацыйны стан штосекунды вагаецца ў залежнасці ад ступені выказанасці думкі. Вагаецца з няўлоўнай амплітудай — ад поўнага дыскамфорту ў пачатку сказа да поўнага камфорту ў канцы яго.

Паводле прынцыпу моўнай адноснасці або лінгвістычнага дэтэрмінізму Уорфа, **разумовыя здольнасці індывіда залежаць ад моўнай атмасферы, у якой адбывалася яго развіццё.** Які механізм фармавання гэтае залежнасці?

Калі лічыць супярэчнасці мовы крыніцай і руховай сілай развіцця, а іх псіхічным увасабленнем — памянёны дыскамфортны стан, то мусім прызнаць, што, напрыклад, мовы з цвёрдым парадкам слоў у сказе больш карысныя ў сэнсе разумовага развіцця. Міжвольная паўза ў сярэдзіне сказа на такой мове выклікае пачуццё дыскамфорту (у абодвух суразмоўцаў) і прымушае закончыць сказ. Штодзённае, штохвіліннае дысцыплінаванне сябе ў такой мове фармуе адпаведны стыль паводзін. Наадварот, мовы з вольным парадкам слоў дазваляюць заўсёды сканструяваць яго так, што пачуццё дыскамфорту не з'яўляецца. Дысцыплінуе, відавочна, не адзін парадак слоў.

Ці можна вызначыць ступень адчування камфорту (дыскамфорту) для асобнай літары ў час яе напісання? Калі так, то найменш зручная літара кірылічнай графікі — **ы**. З яе не пачынаецца ў нас ніводнага слова, яе ў апошнюю чаргу спасцігаюць дзеці. Зрэшты, ёсць яшчэ **й, ў, ё, і**, але толькі ў **ы** складовыя часткі літары сувымерныя. Нічога падобнага няма ў аўтэнтычнай лацінскай графіцы. Хіба што рымскія шматскладовыя лічбы **VI, VIII, IX**. Відаць, праз гэта яны й не прыжыліся.

Гукі і іх спалучэнні ўплываюць на наш эмацыйны стан нават незалежна ад таго, якія словы яны ўтвараюць. Уплываюць па асацыяцыі з раней пачутымі намі жыццёвымі гукамі або гукамі ў складзе слоў. Не заглыбляючыся ў праблемы лінгвагенезу, можна меркаваць, аднак, што напачатку фанетычны лад мовы і артыкуляцыйная база яе носьбітаў фармаваліся шляхам перайманння галасоў жывёл. Гэта тым больш імаверна, што і Homo sapiens і чалавекападобныя малпы паходзяць ад старажытнага агульнага продка — ад самай што ні ёсць жывёлы. Няпэўны **ы** цяжка вымаўляецца і мае выразныя аналагі ў жывёльным свеце, чым, мажліва, і тлумачыцца яго «непапулярнасць».

Пішучы двухскладовыя літары, мы адчуваем нейкую незавершанасць, метастабільнасць — калі напісана толькі адна частка. Імкнучыся як найхутчэй пазбавіцца непрыемнага стану, мы дасягаем палёгкі, калі запісваем другую частку літары. Можна ўявіць сабе ўзровень псіхічнае напругі, калі індывід збіраецца *расставіць кропкі над «і»* (пішучы, пакідаў на «потым»?).

Але калі дыскамфорт — стымул развіцця, можа, літара **ы** — перавага кірылічнай графікі перад лацінскай, а яе часціня ў мовах з кірыліцай — стымул самаўдасканалення? У нашай мове **ы** сустракаецца часцей як у рускай. Паводле вынікаў прадстаўнічага аналізу, пераважная **большасць знакамітых дзеячаў навукі й культуры Беларусі паходзяць з вёскі, вучыліся і выхоўваліся ў атмасферы беларускае мовы.**

З другога боку, літара **ы** ў мовах азербайджанскай, таджыкскай, татарскай, узбекскай, якуцкай (там з яе нават пачынаюцца словы) пашырана яшчэ больш. То можа не варта пастуляваць адназначнай (часам нават матэматычнай, як было папулярна ў тэхнічных навукова-даследчых установах) залежнасці паміж з'явамі? І нельга таксама сцвярджаць адсутнасць усялякае сувязі. Цікава было б пачуць, што на гэты конт маюць сказаць прафесійныя моваэнаўцы.

**Уладзімір СЛАБІН.**

*Вам, школьнікі!*

***Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ***

# Сусветная літаратура ў школе

## VI клас

***Генрык СЯНКЕВІЧ***

# ЯНКА-МУЗЫКАНТ

*(Працяг. Пачатак у № 2.)*

Ах, як усё гэта было цудоўна, нібы ў казцы! Янка глядзеў на гэта ўсё больш прагна. Стаіўшыся ў лапушынніку, ён абапёрся локцямі аб худыя каленкі і, адкрыўшы вусны, усё глядзеў і глядзеў. Страх утрымліваў яго на месцы, але нейкая непераможная сіла штурхала наперад. Быццам чары якія, ці што? Асветленая скрыпка, здавалася, набліжалася, плыла да хлопчыка... Часам яна прыгасала, цьмянела, а потым зноў палымнела яшчэ ярчэй. Чары, вядома, чары! Тым часам падзьмуў вецер; ціха зашумелі дрэвы, залапаталі лапухі, і Янка нібы выразна пачуў:

— Ідзі, Янка! У буфетнай нікога няма, ідзі, Янка!

Ноч была ясная, светлая. У садзе ля ставу пачаў спяваць салавей, пасвістваючы то ціха, то гучней: «Ідзі, ідзі, вазьмі!» Паважны казадой плаўна акрэсліў круг над яго галавой і крыкнуў: «Не бяры, Янка, не бяры!» Але казадой адляцеў, а салавей застаўся, і лапушыннік усё выразней шаптаў: «Там нікога няма!» Скрыпка зноў заблішчала.

Маленькая стуленая постаць павольна і асцярожна пасунулася наперад, а салавей усё пасвістваў ціха і настойліва: «Ідзі, ідзі, вазьмі!»

Белая кашуля мігцела ўсё бліжэй да буфетнай. Яе ўжо не хавае чорны лапушыннік. На парозе буфетнай чуваць перарыўнае дыханне хворых дзіцячых грудзей. Яшчэ хвіліна — і белая кашуля знікла, толькі босая ножка засталася за парогам. Дарэмна, казадой, ты зноў прыляцеў, дарэмна крычыш: «Не бяры, не бяры!» — Янка ўжо у буфетнай.

Жабы ў ставе заквакалі, нібы спалохаліся чагосьці, але потым сціхлі. Салавей змоўк, не варухнуліся лапухі. Тым часам Янка ціха і асцярожна пасоўваўся да скрыпкі, але страх агарнуў яго. У лапушынніку ён адчуваў сябе, як дома, а тут — як звярок у клетцы. Рухі яго зрабіліся рэзкія, дыханне паскоранае і свісцячае, да гэтага ж яшчэ раптам зрабілася цёмна. Ціхая летняя бліскавіца, праляцеўшы па небе, яшчэ раз асвятліла буфетную і застыўшага на карачках Янку, з узнятай да скрыпкі галавой. Але бліскавіца пагасла, месяц схавалі хмары, і больш нічога ўжо не было ні відаць, ні чуваць.

Аднак праз хвіліну ў цемры пачуўся ціхі стогнучы гук, нібы хтосьці неасцярожна дакрануўся да струн, і раптам...

Нечы грубы, заспаны голас сярдзіта спытаў з кута буфетнай:

— Хто там?

Янка затаіў дыханне, але грубы голас зноў крыкнуў:

— Хто там?

Хтосьці крамснуў аб сцяну запалкай, і стала светла, а потым... О, Божа! Пачулася лаянка, удары, дзіцячы плач, лямант: «Ой, не буду!» Забрахалі сабакі, замільгалі агні ў вокнах, успудзіўся ўвесь двор.

На другі дзень бедны Янка стаяў перад судом у войта.

Збіраліся яго судзіць як злодзея? Так. Паглядзеў войт, паглядзелі засядацелі, як стаяў перад імі гэты заморыш, засунуўшы палец у рот і вытрашчыўшы ад страху вочы, брудны, худы, не разумеючы, дзе ён і чаго ад яго хочуць... Ну як тут судзіць такога гаротніка, калі яму ўсяго толькі дзесяць гадкоў ды на нагах ледзь трымаецца? У астрог яго пасадзіць, ці што? Трэба ж пры гэтым мець крыху літасці да дзяцей. Няхай вартаўнік возьме і адлупцуе яго розгай, каб другі раз не краў, — і ўсё тут.

— Вось гэта правільна!

Паклікалі вартаўніка Стаха:

— Вазьмі вось яго і дай яму, каб помніў.

Стах кіўнуў сваёй дурнаватай звярынай галавой, узяў Янку падпахі, нібы кацянё, і панёс у гумно. Хлопчык ці не разумеў, у чым справа, ці перапалохаўся, але не вымавіў ні слова і толькі глядзеў, як злоўленая птушка. Ды ці ён ведаў, што з ім зробяць? Толькі калі Стах узяў яго ў гумне і расцягнуў на зямлі і, закасаўшы кашулю, махнуў з пляча, Янка крыкнуў:

— Мама! — і кожны раз, як вартаўнік сцебане яго, ён крычаў: «Мама, мама!», але ўсё слабей, цішэй, пакуль на якімсьці ўдары зусім не змоўк і больш ужо не клікаў мамы!..

Бедная разбітая скрыпка!

Эх, дурны, дурны, злы Стах! Хто ж так б'е дзяцей? Ён жа быў малы і слабы і так ледзь дыхаў...

Прыйшла маці, забрала хлопчыка, але была змушаная на руках несці яго дадому... На другі дзень не ўстаў з пасцелі Янка, а на трэці, вечарам, ён ужо спакойна паміраў на лаўцы пад дзяружкай.

Ластаўкі шчабяталі на чарэшні, што расла каля прызбы. Сонечны прамень заглянуў у акно і заліў залацістым святлом растрэпаную чупрыну хлопчыка і яго твар, у якім не засталося ні крывінкі. Гэты прамень быў нібы тым шляхам, па якім павінна была адысці душа хлопчыка. Добра, што яна хоць у хвіліну смерці магла ісці па шырокай сонечнай дарозе, таму што пры жыцці яна сапраўды ішла цярністай сцяжынкай. Між тым, худыя грудзі яшчэ дыхалі, хлопчык, здавалася, прыслухоўваўся да далятаўшага ў раскрытае акно адгалосся веснавога жыцця. Быў вечар. Дзяўчаты, вяртаючыся з сенажаці, спявалі: «Ой, на зялёнай на руні!», з ручая даляталі гукі жалейкі. Янка слухаў апошні раз, як іграе вёска. Каля яго на дзяружцы ляжала яго скрыпка з гонты.

Раптам твар паміраючага хлопчыка пасвятлеў, а пабляклыя вусны прашапталі:

— Мама!

— Чаго, сынок? — адклікнулася маці праз слёзы, што душылі яе.

— Мама! А Бог дасць мне на небе сапраўдную скрыпку?

— Дасць, сынок, дасць! — адказала маці. Больш яна не магла нічога сказаць: яе суровае сэрца разрывалася ад перапоўніўшага яго жалю, і, прастагнаўшы: «О, Езус, Езус!» — яна ўпала тварам на куфар і закрычала, як звар'яцелая, адчуваючы, што ёй ужо не ўратаваць ад смерці гэтай адзінай любай істоты.

І яна не ўратавала яго... Калі яна ўстала, нарэшце, і зноў паглядзела на сваё дзіцянё, вочы маленькага музыкі былі адкрытыя, але нерухомыя, з твару знікла ўсмешка, твар застыў і быў вельмі смутны. Прамень сонца таксама знік...

Спакой табе, Янка!

* * *

На другі дзень вярнуліся дамоў паны з Італіі. Разам з імі прыехаў і малады чалавек, які заляцаўся да паненкі. Малады чалавек сказаў на французскай мове:

— Што за цудоўная краіна Італія!

— І што за музыкальны народ! Якое шчасце вышукваць там таленты і дапамагаць ім.., — дадала паненка.

Над Янкам шумелі бярозы.

**Пераклад з польскай**
**Міхася МАШАРЫ.**

**ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ**



**ЧЫТАЛІ?**

# «На крыжовай дарозе»

Так называецца кніга Аўгена Калубовіча, якую ў канцы мінулага года сціплым накладам — паўтары тысячы паасобнікаў — выпусціў у свет менскі недзяржаўны выдавецкі цэнтр «Бацькаўшчына». У кароткай прадмове адзначана, што імя аўтара кнігі на Беларусі пакуль застаецца малавядомым. Нічога тут дзіўнага: у БССР працягам доўгіх дзесяцігоддзяў усеўладнага камуністычнага засілля нават асцярожнай гаворкі быць не магло аб публікацыі твораў тых суайчыннікаў-эмігрантаў, каго тут лічылі «ідэалагічнымі дыверсантамі» і «класавымі ворагамі». Калі ж іх зрэдку ў нас часам усё-такі ўспаміналі ў друку, то толькі з адной мэтай — у чарговы раз з галавы да пят абліць брудам. Таму, відаць, будзе не лішнім перш-наперш крыху расказаць пра аўтара гэтай кнігі.

Аўген Калубовіч нарадзіўся 5 сакавіка 1910 года ў мястэчку Ціхінічы Рагачоўскага павета. Скончыў пачатковую школу ў родным мястэчку, сямігодку — у Рэчыцы, вясной 1930 года — Бабчынскі педагагічны тэхнікум. Тады ж (у траўні) арыштаваны органамі ГПУ за прыналежнасць да нелегальнай маладзёжнай арганізацыі «Альтруістаў». Мэта апошняй вынікае ўжо з яе назвы: альтруіст — той, хто бескарысліва служыць іншым, хто гатовы ахвяраваць дзеля гэтага асабістымі інтарэсамі. Гаворачы аб сваёй арганізацыі, аўтар піша ў згаданай кніжцы: «Рэальна мы не ўзнялі зброі супраць савецкай улады. Усё наша «злачынства» — жаданне змагацца за свабоду беларускага народа. Гвалт і тэрор, якія мы бачылі вакол, штурхалі нас на гэта, натхнялі... Лозунгі нашы гучалі так: «Беларусь стогне пад бізуном Масквы. Калгасы — шлях да новага, камуністычнага прыгону... Сорам і ганьба тым, хто дапамагае «раскулачваць» і гвалтам заганяць у калгас. Савецкая ўлада — не народная, не беларуская... Далоў дыктатуру Палітбюро! Свабоду Беларусі!»

А.Калубовіча прыгаварылі да трох гадоў зняволення, пакаранне адбываў у канцэнтрацыйных лагерах на Далёкім Усходзе. Пасля вяртання на Бацькаўшчыну яму з вялікай цяжкасцю ўдалося ўладкавацца настаўнікам пачатковай школы, але неўзабаве яго звольнілі. Ад чарговых непазбежных рэпрэсій маладога настаўніка ўратавала толькі асабістая дапамога старшыні ЦВК БССР А.Чарвякова, у выніку чаго былога вязня аднавілі на настаўніцкай працы. Але Калубовіч усё ж палічыў за лепшае пераехаць у Менск, дзе скончыў педагагічны інстытут (1939 год), а пасля працаваў метадыстам Наркамата асветы. Праўда, і тут яго жыццё па-ранейшаму вісела літаральна на валаску, бо сталінскі тэрор у СССР, уведзены ў ранг афіцыйнай крамлёўскай палітыкі, набыў на той час ужо формы татальнай і масавай з'явы.

У перыяд Другой сусветнай вайны Калубовіч далучыўся да тых антыкамуністычных, нацыянальна свядомых сіл, якія ў вельмі небяспечных, напружаных і надзвычай трагічных умовах нямецкай акупацыі мужна баранілі свой народ, нашу маці-Беларусь і свята верылі ў светлую будучыню роднай зямлі. Ён стаў сябрам Беларускай цэнтральнай рады. На Другім Усебеларускім Кангрэсе (1944 год) выступіў з рэфератам, дзе абгрунтаваў адвечныя гістарычныя правы беларусаў на вольную і незалежную Бацькаўшчыну. Вядома, што заставацца пасля таго на радзіме азначала б самагубства. Таму Калубовіч спачатку выехаў у Германію, а ў 1950 годзе — у ЗША. У Амерыцы ён доўгі час быў вымушаны займацца цяжкай фізічнай працай, жыць пад чужым прозвішчам. Але, не зважаючы на маласпрыяльныя ўмовы, Калубовіч і ў эміграцыі не пакідаў актыўнай грамадска-культурнай і навукова-асветніцкай дзейнасці, цалкам падначаленай адной мэце — наблізіць святы дзень аднаўлення дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Ён напісаў сем кніг, некалькі дзесяткаў навукова-папулярных і навуковых артыкулаў, якія друкаваліся ў заходніх краінах. Памёр у ЗША ў траўні 1987 года.

Знаёмства шырокай чытацкай аўдыторыі Беларусі з творчасцю Калубовіча стала магчымым зусім нядаўна, калі ў перыёдыцы (у т.л. і ў «Нашым слове») пачалі з'яўляцца асобныя публікацыі гэтага аўтара. А ў 1993 годзе дзякуючы намаганням трох выдавецкіх структур — «Гамакса» з Беластока, віленскай «Нашай Нівы» і менскай «Мастацкай літаратуры» выйшаў зборнік яго даследаванняў, артыкулаў, успамінаў «Крокі гісторыі».

Новая кніжка Аўгена Калубовіча аб'яднала лепшыя, найбольш значныя творы гісторыка, сярод якіх галоўнае месца займаюць успаміны «На крыжовай дарозе», якія асобным выданнем упершыню ўбачылі свет у 1986 годзе ў Кліўлендзе. Мэта ўспамінаў, як падкрэслена ў аўтарскай прадмове, «расказаць пра масавую гібель беларусаў у савецкіх турмах і канцэнтрацыйных лагерах». Адзначым, што аўтар, звяртаючыся да жудаснай фанталогіі свайго лагернага жыцця, да пачутага, убачанага і перажытага за кратамі, выкарыстоўваючы разнастайныя дакументальныя сведчанні і робячы адпаведныя аналітычныя абагульненні, паспяхова справіўся з вырашэннем пастаўленай задачы. Тут, безумоўна, неацэнную дапамогу яму зказаў уласны горкі лагерны вопыт спалучаны з яркім і самабытным пісьменніцкім талентам. На нашу думку, лепшыя старонкі ўспамінаў аказваюць не меншае ўражанне, чым фрагменты з «Аднаго дня Івана Дзянісавіча» і «Архіпелага ГУЛАГа». Праўда, падобныя параўнанні могуць падацца неадэкватнымі, бо Аляксандр Салжаніцын зараз лаўрэат Нобелеўскай прэміі, славуты пісьменнік сучаснасці. Таму варта ўлічваць, што імя Аўгена Калубовіча толькі-толькі пачынае вяртацца на Бацькаўшчыну, пра існаванне якой у цывілізаваным свеце па-ранейшаму амаль нічога не ведаюць...

Другі твор кнігі — дакументальны гістарычны нарыс «Айцы» БССР і іхні лёс». Тут адназначна даказана, што БССР, абвешчаная Крамлём з дапамогай мясцовых так званых нацыянал-камуністаў (З.Жылуновіч, У.Фальскі, А.Чарвякоў, З.Чарнушэвіч, Я.Дыла, Ф.Шантыр і інш.), — штучнае марыянетачнае ўтварэнне, якое ўзнікла ў процівагу БНР і не прынесла шчасця Беларусі, яе народу. Горкі асабісты лёс стваральнікаў БССР — амаль усе яны неўзабаве сталі ахвярамі сталінскага тэрору.— толькі падкрэслівае правільнасць гэтай высновы.

Завяршае кнігу адносна невялікі нарыс «Акт 25-га сакавіка і Адраджэнне нацыянальнай беларускай культуры», які цалкам грунтуецца на дакументах (адных аўтарскіх спасылак на іх тут налічваецца 159!). Удумлівае знаёмства са зместам непазбежна пераконвае, што Беларуская Народная Рэспубліка, абвешчаная 25 сакавіка 1918 года, з'ўлялася зусім не эфімернай, а рэальнай беларускай нацыянальнай дзяржавай. Аб апошнім, у прыватнасці, сведчыць палітыка БНР у галіне культуры, адукацыі і народнай асветы. Заўважым таксама, што большасць фактаў, на якія шырока абапіраецца аўтар, да нядаўняга часу заставаліся невядомымі нават нашым даследчыкам. Такім чынам, на Беларусь вяртаецца імя Аўгена Калубовіча — аднаго з таленавітых яе патрыётаў-сыноў.

Кніга «На крыжовай дарозе» выпушчана на высокім мастацкім і паліграфічным узроўні, мае дасканалы даведачны апарат. Укладальнік і аўтар прадмовы — пісьменнік Яўген Лецка, ён жа з'яўляецца фундатарам выдання. Урачыстая прэзентацыя кнігі адбылася на вечарыне ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, наладжанай менскім грамадска-асветніцкім клубам «Спадчына» (калектыўная сябрына ТБМ імя Ф.Скарыны) напярэдадні каталіцкіх Каляд. Прысутныя маглі атрымаць яе тут з рук гісторыка Аўгена Калубовіча — сына аўтара. Кніга ўжо паступіла ў кіёскі ТБМ.

**Мар'ян ВІЖ**

## У СВЕЦЕ КРАСЫ



**Ніна АКСЁНЧЫК**

### Зімовы лес

*Зімовы лес — крыштальны сад*
*У чарах заінелых.*
*Сняжынак свеціцца пагляд*
*На галінках белых.*

*Ліецца ціхае святло*
*У ранішнім спакою,*
*Што паўнеба абняло*
*Ласкай незямною.*

*І ціш баяцца скалыхнуць*
*Вятры за небакраем.*
*І я баюся уздыхнуць —*
*Сэрца замірае.*

Вітаўт: Вось хто дапамагае нам змагацца за незалежнасць

Наша слова

Чытай! Калі ты — за незалежную Беларусь — ты — за нашу газету!



## Пачутае «У Лявона»

* * *

Пасля судовага працэсу савецкі пракурор забягае ў пакой, дзе сядзяць яго калегі, і заходзіцца ад смеху.

— Што здарылася, Ваня? Чаго ты так смяешся?

— Геніяльны, проста геніяльны палітычны жарт...

— Які?

— Не магу яго паўтарыць!

— Чаму?

— Бо за гэты анекдот я засудзіў таго дысідэнта на 5 гадоў.

* * *

Сакратар райкама прыехаў у Менск. Зайшоў да цырульніка пагаліцца. Той голіць і кажа:

— Ну і шыя ў вас, таварыш...

— Бо ем сала! — горда адказаў партыец.

— Па мне хоць чорта лысага ешце, але часцей мыйце шыю!

* * *

— Які найкарацейшы анекдот?

— Камунізм.

— А які найдаўжэйшы?

— Праграма КПСС.

* * *

— Ну і як, падабаецца табе ў школе?

— Брэшуць! — адказаў вучань.

— Чаму?

— Бо на дзвярах напісалі 1-ы клас, а мы сядзім на цвёрдых лаўках...

## Пародыі

**Георгій ЮРЧАНКА**

### Насалода

*Я за аблокамі сачыў*
*І кожнаму даваў найменне.*
*Цвяліў вятрыска далячынь —*
*Імёнаў паскараў знікненне.*
**Алесь Аркуш.**

Сусвет суладжана жыве,
Палоніць фарбамі сваімі:
Плывуць аблокі ў сіняве, —
Я знаю кожнага па імю.

Вунь злева сунецца Дзямаш,
Ледзь-ледзь правей ступае Борах,
За ім спяшаецца Пятраш,
Плыве, гайдаючыся, Дорах.

Наўзбоч намерыўся Кірэй,
Услед віхляецца Мікула,
Смяецца стрымана Арэй,
Глядзіць насуплена Вакула.

Прайдоха фаерны Трахім
З надзеяй трэцца ля Анеты.
Вудаль удачлівы Яўхім
Шукае сцежку да Жанеты.

А далей Ціт, Іпат, Арсень,
Арэхва, Лёкса, Псой, Мікодым...
Сачыць за імі кожны дзень —
Няма вышэйшай насалоды.

### У розныя бакі

*Паласаты асфальт.*
*Рука ў кішэні.*
*Ногі ў стоме.*
*Вока.*
*Яблык.*
*.......................................*
*Мы ехалі ў адным аўтобусе,*
*А бач — у розныя бакі...*
**Наталля Марціновіч.**

Глыбокі ўздых. Алея. Скверык.
Асфальт. Бардзюры. Тратуар.
Чаканне. Кофтачка. Каўнерык.
Абдымкі. Шыя. Губы. Твар.

Скамейка. Заціш. Сонца. Ранак.
Хмурынкі. Певень. Дыялог.
Веласіпед. Пясок. Каханак.
Разлука. Фотка. Маналог.

Усмешка. Роздум. Радасць. Смутак.
Рашэнне! Рух — дзевяты вал.
Рукзак. Валіска. Ношка. Скрутак.
Трамвай. Таксі. Білет. Вакзал.

Аўтобус. Гойданка. Імпрэсія.
Задумы. Планы. Бальшакі.
Пяро. Паперы стос. Паэзія!
Ды шлях — у розныя бакі...

### Удзячнасць

*О, камяні! Якая сіла*
*і хто вас можа абудзіць?*
*.................................*
*Песня вечаровая —*
*словы адмысловыя —*
*праз лугі мурожныя*
*рэчкаю плыве.*
**Анатоль Шушко.**

Камяні пад ганкамі,
вечарамі, ранкамі
каля іх узнёслы я
радасна хаджу.
Ці мяце мяцеліца,
ці туманы сцеляцца,
песняй адмысловаю
камяні буджу.

Камяні пад грушаю
урачыстай крушняю,
пад сасной, пад елкаю,
сярод іншых дрэў.
Ля рачулкі талістай
пад вярбой разгалістай,
седзячы на камені,
любую сустрэў.

На раллі сабраныя,
на шляхах пасланыя,
вы цярпліва-ўзрушана
леглі пад паркан.
Росамі абмытыя,
мроямі спавітыя,
дзяка вам стозыкая
і сто дзесяць шан.

## Афарызмы

**Мілан БАШЫЧ**

✧ Нікому так, як пчолам — у іх кожны месяц мядовы.

✧ Да стаматолага яна не звярталася, затое часта паказвала свае зубы дома, мужу.

✧ Яна чакала не толькі прынца з казкі, але і прынцыповасці ў шлюбе.

✧ Часта лунае ў аблоках, а не пілот.

✧ Жанчыны ідуць на ўсё альбо нішто, а мужчыны — на ўсё і на абы-што.

✧ Кожны — каваль свайго шчасця, ды мала хто жадае мець сваю кузню.

✧ Што на памылках вучымся — праўда, але ці варта з-за гэтага так часта памыляцца?

✧ Жыццё піша раманы. Каму ж перападаюць сціплыя ганарары?

✧ Сродкі вытворчасці мадэрнізуюцца, і таму дзе-хто даўно забыўся на серп і молат.

✧ Ён працаваў на карысць сваіх стратаў, але і гэтай працы яго пазбавілі.

***Пераклаў з сербска-харвацкай мовы Іван ЧАРОТА.***

## У старых фаліянтах

### Порткі і свет

Да аднаго краўца прыйшоў кліент замовіць порткі. Калі ж ён даведаўся, што кравец іх зможа пашыць толькі за месяц, то сказаў:

— Пане, Бог стварыў свет за 6 дзён, а вы на нейкую дробязную пару калашын патрабуеце месяца!

— Каханы пане, — адказаў кравец, — дык паглядзі ж на гэны свет і на гэтыя штаны!

### Спіноза

Вальнадумец запытаўся ў талмудыста, што той думае аб выказванні Спінозы пра тое, што чалавек не вышэйшы ад жывёлы і мае гэткую самую натуру.

— Калі так, — адказвае талмудыст, — то можа растлумачыш мне, чаму сярод жывёл не нарадзілася ніводнага Спінозы?

**Вычытаў Алег ДЫШЛЕВІЧ.**

## Іранічнае

**Антон МАНКЕВІЧ**

Эканоміка — бы сані:
Як кіруеш, так вязе.
Дык мо возьмем лейцы самі,
Покуль жывы балазе.

### Чарга

Зранку да ночы, нібы частакол,
Чэргі, і чэргі, і чэргі вакол...
Стомлены імі вярнуўся да хаты,
Зірк тэлевізар — а там дэпутаты
Гуртам стаяць да трыбуны ў чарзе.
«Вось, — я падумаў, — пачатак ёй дзе!»


Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 3

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 6696 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 16.01.1995 г. у 15 гадзін.